● ЛІСТ ТЫДНЯ

# ПАКІНЬЦЕ ПАЛІТЫКУ ПАЛІТЫКАМ

Складаная сітуацыя ў нашым грамадстве патрабуе пошуку асцярожных памяркоўных рашэнняў, бо залішняя радыкалізацыя можа прывесці да канфліктаў і крыві. Асабліва небяспечна зараз уцягванне ў палітыку ўзброеных сілаў. Пры прыніжаным прэстыжы вайсковай службы, цяжкім сацыяльна-эканамічным становішчы афіцэраў прафесійныя вайскоўцы становяцца небяспечным матэрыялам у руках несумленных палітыкаў. Трэба ўлічваць тое, што аб'ектыўна гэтыя людзі ў большасці сваёй дрэнна арыентуюцца ў палітычнай сітуацыі, бо таму спрыяюць, з аднаго боку, убітыя ў галаву старыя камуністычныя догмы, а з другога — спецыфіка службы, якая ў нейкай ступені адлучае афіцэраў ад жыцця грамадства.

Па прыкладу цывілізаваных краін нарэшце выйшаў загад міністра абароны Рэспублікі Беларусь аб поўнай забароне палітычнай дзейнасці ў войску. Здаецца, усё ідзе належным чынам. Але ёсць сілы, якім няможацца без таго, каб не падштурхоўваць афіцэраў да барацьбы супраць народа, які іх корміць.

Антыбеларускія колы ў войску спрабуюць рабіць стаўку на афіцэрскі сход, які ўрэшце ператвараецца ў фактар нестабільнасці вайсковых калектываў. Дарэчы, ваеннае кіраўніцтва Расіі (а трэба спадзявацца, што там генералы не дурнейшыя за нашых) ужо даўно гэта зразумела. А таму там дзейнасць афіцэрскіх сходаў моцна абмежавана ўзроўнем не вышэй палкавога і пералікам праблем, якія ўваходзяць у кампетэнцыю гэтых сходаў. У Беларускім жа войску пакуль што квітнее «дэмакратыя», калі агрэсіўна-шавіністычна настроеныя групкі афіцэраў маюць магчымасць адкрыта паліваць брудам беларускую дзяржаўнасць, дзяржаўную мову, называць здраднікам кіраўніка сваёй краіны. І ўсё — як з гусі вада, бо адбываецца гэта пад прыкрыццём «мнения офицерского собрания».

Яскравы прыклад такой сітуацыі адбыўся нядаўна ў Мінскім вышэйшым ваенным інжынерным вучылішчы. Напярэдадні група афіцэраў звярнулася да Савета афіцэрскага сходу з просьбай разгледзець пытанні сацыяльна-бытавога становішча вайскоўцаў і дапамагчы ў іх вырашэнні. У час сходу, пасля таго, як намеснік начальніка вучылішча зачытаў некаторыя загады, і ў тым ліку загад аб забароне палітычнай дзейнасці, на трыбуну ўзышоў старшыня афіцэрскага сходу вучылішча палкоўнік Цімашэнка. Нечакана для многіх ён прапанаваў разгледзець не праблемы афіцэраў, а нешта зусім іншае. Заявіўшы, што орган Вярхоўнага Савета «Народная газета» быццам бы дыскрэдытуе ўсіх афіцэраў беларускага войска, ён запатрабаваў прыняць зварот ад імя афіцэрскага сходу з асуджэннем рэдакцыі «НГ». У зале пачаўся ўсхваляваны гоман прадстаўнікоў такіх антыбеларускіх арганізацый, як «Союз офицеров», «Славянский Собор» і гэтак далей. Большасць жа афіцэраў, у тым ліку і тыя, хто толькі-толькі прыбыў у вучылішча, моўчкі пазіралі на ўсё гэта і былі гатовыя прагаласаваць за што заўгодна, абы хутчэй пайсці дадому.

Дзякуй богу, знайшоўся сумленны вайсковец, які выйшаў і адкрыта сказаў, што афіцэрскі сход зноў спрабуюць уцягнуць у палітычныя гульні, нават і пасля вядомага загаду міністра абароны. Пасля гэтага намеснік начальніка вучылішча палкоўнік Купчанка зразумеў, што ў выпадку скандалу адказнасць ляжа на яго, як на старэйшага начальніка, а таму прапанаваў спыніць спрэчкі і не абмяркоўваць палітычных пытанняў. Нягледзячы на яўную незадаволенасць актывістаў-«собористов», большасць афіцэраў прагаласавала за спыненне сходу.

Аўтар гэтых радкоў толькі нядаўна служыць у вучылішчы, але паспеў заўважыць, што сімпатыі часткі камандавання яўна на баку тых, хто спрабуе падбухторваць афіцэраў на антыдзяржаўныя дзеянні. Актывісты «Славянского Собора» Ільін, Сураеў, Няфёдаў адчуваюць сябе вольна, праводзячы антыбеларускую прапаганду, распаўсюджваючы скажоную інфармацыю. Зброяй у іх руках пакуль што з'яўляецца Савет афіцэрскага сходу вучылішча, куды яны працягнулі сваіх людзей яўна не без падтрымкі камандавання.

Але ў вучылішчы шмат і патрыётаў Беларусі, якія ў цяжкіх умовах усяляк падтрымліваюць і садзейнічаюць незалежнасці і адраджэнню сваёй Бацькаўшчыны. Не ўсе пакуль могуць сказаць пра свае погляды адкрыта, бо сумны прыклад шалёнага цкавання сяброў Беларускага згуртавання вайскоўцаў ва ўсіх перад вачыма.

З патрыётамі вымушаны лічыцца і антыбеларускія сілы, стрымліваць сваю агрэсіўнасць, бо, калі Радзіма акажацца ў небяспецы, беларускія патрыёты скажуць сваё важкае слова.

Ды будзем спадзявацца, што нам не спатрэбяцца нашыя прафесійныя якасці, а на шматпакутнай зямлі Беларусі трывала ўсталюецца (на гэты раз назаўсёды!) МІР і ДАБРО.

*БЕЛАРУСКІ АФІЦЭР.*

*P.S. Выбачайце, але, пакуль існуе непасрэдная пагроза самому існаванню нашай рэспублікі, не ўсе могуць адкрыта паставіць свае прозвішчы.*

### Каментарый аддзела палітыкі

**Вось такі ліст даслаў нам афіцэр Беларускага Войска (прозвішча яго, між іншым, мы ведаем, не надрукавалі ў газеце па ягонай жа просьбе). Сумны ліст. Асабліва ў кантэксце апошніх падзей. Звольнены з войска падпалкоўнік Мікалай Статкевіч, дарэчы, старшы выкладчык гэтага ж вучылішча, кандыдат тэхнічных навук, які толькі што скончыў доктарскую дысертацыю па пытаннях вайсковай тэхнікі і ўзбраення. Звольнены з самай горшай фармулёўкай — «за дыскрэдытацыю высокага звання афіцэра».**

**Старшыня Беларускага згуртавання вайскоўцаў дыскрэдытаваў званне БЕЛАРУСКАГА афіцэра?! Нонсенс! БЗВ ніколі не з'яўлялася палітычнай арганізацыяй, гэта падкрэсліваецца і ў статуце згуртавання. Скажам шчыра — звольнены афіцэр Статкевіч за тое, што быў сапраўды БЕЛАРУСКІМ афіцэрам, патрыётам.**

**Каму ад таго горш? Вядома, у маральным і жыццёва-матэрыяльным плане Статкевічу нанесены адчувальны ўдар. Але, з другога боку, цяпер ён зможа заняцца сапраўднай палітычнай дзейнасцю. А ў «беларускай» арміі застануцца служыць «беларускія» афіцэры са «Славянского Собора» ды «Союза офицеров».**

**Бедная беларуская армія!**

● ФОТОФАКТ

ПОПОЛНЕНИЕ в рядах руководителей самодеятельных коллективов и фольклорных ансамблей. Дипломы специалистов получили еще тридцать выпускников Минского института культуры. До того, как разъехаться по городам и селам республики, где им предстоит трудиться на ниве возрождения самобытнойбелорусской культуры, они выступили с отчетом перед педагогами истудентами «альма-матер».

**НА СНИМКАХ: выпускница института Маргарита Шабуня — музработник минского детского сада № 408.**

**Фото Валерия АЛЕШКЕВИЧА, БЕЛИНФОРМ.**

● ПО РЕСПУБЛИКЕ БЕЛАРУСЬ

### *Со съезда — на митинг*

**После прошедшего в Минске I Международного съезда евреев 50 его делегатов решили посетить места своего детства и отправились на Лидчину.**

**Они побывали на захоронении 5 тысяч человек — жертв фашистской оккупации, среди которых были и их земляки. На этом месте гости провели митинг, на котором также присутствовали представители местных властей, Общества белорусской культуры им.Франциска Скорины и Общества польской культуры на Лидчине.**

### *«Світанак» «вырос» из детской одежды*

**В этом сезоне Оршанская фирма «Світанак», которая ранее специализировалась только на выпуске детской верхней одежды, выступает в роли конкурента Пинской трикотажной фабрики. На одном из потоков производства освоен новый ассортимент моделей. Они предназначены для женщин, которые не против иметь в своем гардеробе модные брюки, костюмы, халаты, изготовленные из трикотажного полотна.**

**Новые изделия «Світанка» по довольно приемлемым ценам уже поступили в фирменный магазин предприятия. Он хоть и расположен на окраине города, однако приобретает у оршанцев все большую популярность. Кроме продукции швейной фабрики там можно приобрести обувь и детские игрушки.**

### *Коммунисты готовятся*

**Подготовка коммунистов к очередным выборам в органы Советской власти — об этом шла речь на объединенном собрании толочинских районных организаций ПКБ и КПБ.**

**В числе других рассмотрен и вопрос об имуществе КПБ.**

### *Из застоя — в простой*

**Стали три цеха Витебского завода радиодеталей. Другие подразделения основного производства загружены частично и работают неполную неделю.**

**За время вынужденного простоя рабочие предприятия получают две трети тарифа.**

### *«Дорогая» моя граница*

**Гродненским облисполкомом установлен сбор с жителей РБ и иностранных граждан, пересекающих государственную границу.**

**Теперь тот, кто выезжает за границу через КПП «Брузги», обязан заплатить 10 процентов от минимальной зарплаты. За каждый автомобиль плата установлена в размере 40 процентов от минимальной зарплаты.**

**Кроме того, облисполкомом утверждены ставки налога за выброс вредных веществ в атмосферу и платежи за природопользование.**

● ДУМКІ ЎСЛЫХ

# КУДЫ ВЯДЗЕ НАС ПАРЛАМЕНТ

**ЯФІМ ІВАНОВІЧ.**

У свой час нехта з відных палітолагаў, аналізуючы няўдачы перабудовы ў былым СССР, заначыў: галоўная памылка Гарбачова заключаецца ў тым, што ён рэфармаваў камунізм, а камунізм нельга рэфармаваць, ён можа быць ці не быць...

Тады так не хацелася верыць у тое. Усюды ж гаварылі аб гуманным сацыялізме, сацыялізме з людскім тварам, сацыялізме без ідэалагічных скажэнняў і г.д. Ды і самі камуністы сталі заяўляць, што яны перамяніліся, усвядомілі свае памылкі, што цяпер будуць кіравацца не класавымі падыходамі, а агульначалавечымі каштоўнасцямі.

Аднак па меры таго, як ідзе час, усё ясней становіцца, што палітолаг быў не пазбаўлены дальнабачнасці. Тое, што напалоханыя праваліўшымся жнівеньскім путчам 1991 г. камуністы прыціхлі, было толькі бальшавіцкай тактыкай адступлення, каб потым пры зручных абставінах з новай сілай пайсці ў наступ.

Відавочны прыклад таму і дзейнасць нашага партакратычнага Вярхоўнага Савета. Калі ў першыя часы кансерватыўная большасць дзейнічала ціха, з аглядкай, нават у тым-сім, хай сабе другарадным, ішла на кампраміс з апазіцыяй, то ў апошні час яна скінула маску, адкрыта пайшла на канфрантацыю з усімі прагрэсіўнымі сіламі. Асабліва гэта праявілася ўжо напачатку 12-й сесіі Вярхоўнага Савета, якая праходзіць у гэтыя дні.

Паказальна, што перш за ўсё з ліку кансерватыўнай большасці стварылі камісію па асвятленню ходу работы сесіі. Быццам гэта не справа сродкаў масавай інфармацыі. Хіба гэта не той самы бальшавізм, які лічыць, што ён лепш ведае, у якой інфармацыі маюць патрэбу «шырокія масы», як любілі гаварыць былыя прапагандысты.

Яшчэ больш бессаромна і нахабна адвяргаліся прапановы, якія ішлі ад прагрэсіўнай часткі парламента пры абмеркаванні парадку дня. Вось толькі некаторыя прыклады.

Усім вядома, што ў апошні час чыноўная наменклатура, мабыць адчуваючы сваю нявечнасць, рынулася ў захват зямельных участкаў і будаўніцтва шыкоўных катэджаў. Вось народны дэпутат І.Герасюк і ўнёс прапанову абмеркаваць гэтае пытанне на сесіі Вярхоўнага Савета. У зале раздаўся шум незадаволенасці, і з дапамогай машыны галасавання прапанова была адвергнута. Такім чынам, сялянам няма ад каго чакаць дапамогі ў абароне зямель, захват якіх ушчамляе іх інтарэсы. У штыкі сустрэла парламенцкая большасць і прапанову аб уключэнні ў парадак дня сесіі пытання аб эканамічных зонах. Між тым, як сведчыць вопыт посткамуністычных дзяржаў, гэта адзін з верных шляхоў хутчэйшага пераадолення эканамічнай адсталасці, у якой дзякуючы адміністрацыйна-каманднай сістэме апынулася наша рэспубліка.

Гэтак жа не была прынята і прапанова народнага дэпутата Баршчэўскага аб змене пастановы Саўміна, паводле якой для чыноўнай наменклатуры, у тым ліку і народных дэпутатаў, пераразлічваюцца персанальныя пенсіі — быццам за асаблівыя заслугі перад Рэспублікай Беларусь. І гэта ў той час, калі грамадства знаходзіцца ў крызісным стане. Як бачым, наменклатура не можа без прывілей, у дадзеным выпадку без тлустых пенсій, якія ставяць іх у больш выгаднае становішча ў параўнанні з народам.

Адхіленнем прагрэсіўных прапаноў кансерватыўная большасць не абмежавалася, а пайшла далей. Так, фракцыя ветэранаў запатрабавала забараніць дзейнасць БНФ, быццам ён дзейнічае на шкоду суверэнітэту рэспублікі. Апрача таго, дэпутаты з кансерватыўнага блоку патрабавалі адмяніць сімволіку і геральдыку сённяшняй Рэспублікі Беларусь. Дзякуй богу, у большасці дэпутатаў хапіла здаровага сэнсу, каб толькі пасмяяцца з гэтых прапаноў.

У парадак дня сесіі ўключаны і такія фундаментальныя пытанні, як раздзяржаўленне і прыватызацыя, уласнасць на зямлю. Між іншым, у каторы раз. У атмасферы, якая склалася напачатку работы парламента, цяжка ўявіць, што і на гэты раз яны будуць вырашаны станоўча. А без гэтага не можа ісці рэфармаванне эканомікі і грамадства, па-ранейшаму будзе працягвацца карупцыя, раскраданне і расцягванне народнай маёмасці.

Можа хто скажа, навошта кідацца ў роспач. Любыя законы, якія прымаюцца, не выконваюцца, павісаюць у паветры. Яно сапраўды так. Але ж гэта працуе на тых, хто імкнецца як мага даўжэй захаваць існуючае становішча, паглыбіць крызіс, абвастрыць сацыяльныя супярэчнасці, каб у зручны момант павярнуць кола гісторыі назад, зноў павесці нас у «светлую камуністычную будучыню».

Нягледзячы на заклік Старшыні Вярхоўнага Савета С.С.Шушкевіча працаваць у згодзе і прадукцыйна, кансерватыўная большасць не складвае зброі. Дзеля дасягнення эгаістычных мэт у ход ідзе не толькі машына галасавання, але і галасаванне «нагамі». Так, калі пасля абмеркавання паправак і змяненняў да існуючай Канстытуцыі дайшло да зацвярджэння іх, у зале не аказалася патрэбнага кворуму.

Адзіная надзея на лепшае — гэта рэферэндум і новыя выбары ўсіх узроўняў улады. Калі такое рашэнне прыме Вярхоўны Савет, святы абавязак кожнага грамадзяніна — прыняць у іх самы актыўны ўдзел.

● ВЕРНЕМСЯ К РАЗГОВОРУ

# НАРОД ВОЛНУЕТ МНОГОЕ!

**АНАТОЛИЙ СВИРИДОВИЧ, шлифовальщикМинского вагоноремонтного завода.**

21 апреля в «Добрым вечары» было напечатано мое письмо «Мачеха» — соперница». Я благодарен редакции за публикацию, однако с ответом, который дал на него заместитель председателя Белорусской радиокомпании П.А.Шевчук, не согласен.

Что же предлагает нам уважаемый П.А.Шевчук? Смотреть мультфильмы, слушать сказки по радио и вообще удовлетворяться разной чепухой. Под тем «соусом», что, мол, именно это людям и нравится.

Но простите, разве экономическое положение Беларуси народ не интересует? Что делается, чтобы противостоять коррупции и взяточничеству — это что, народ не интересует? Еще как интересует! Любой нормальный человек сегодня ищет выход из кризисной ситуации, независимо от того, кто он — рабочий, колхозник, интеллигент. Это всех касается.

Дело в том, что Верховный Совет и Совет Министров, видимо, не желают, чтобы народ знал правду о подлинном экономическом кризисе Беларуси. Ведь что значит показать правду о том, что в нашей республике творится? Значит одно — народ потребует привлечь виновных к ответу.

Считаю, что радио и телевидение должны давать людям полную информацию обо всем, а не быть только рупором Верховного Совета и Совета Министров.

Приведенные Вами, уважаемый П.А.Шевчук, социологические исследования о популярности телепередач, среди которых политические темы значатся на последнем месте, свидетельствуют, по моему мнению, скорее о том, что люди устали от лживых речей политиков и от своей жизни. Но если откровенно, то я с этими проведенными социологическими исследованиями вообще не согласен. Откуда берутся результаты? Впечатление такое, что нам их просто навязывают.

Я сам член цехового комитета вагоносборочного цеха и ежедневно разговариваю с рабочими о всех насущных проблемах. И говорю с полной ответственностью: людей сегодня волнует слишком многое!

Как жить дальше, на что рассчитывать трудовому человеку, почему узаконена спекуляция в республике, когда закончится хаос в экономике и политике, сколько будет продолжаться рост цен? И, наконец, кто во всем этом виноват?

Вот на эти вопросы народ ищет ответа. Так разве они не политические? А нас все убаюкивают, дескать, народ сказку хочет посмотреть или очередную историю какой-нибудь заграничной любви. И смотрит. И по всем каналам пускают оболванивающую чепуху.

А нам бы быстрее в своей жизни разобраться. Я убежден, что самым серьезным проблемам должно быть отдано не менее половины всего телевизионного времени. Пусть наши политические деятели чаще бывают на виду, а мы уж разберемся, кто чего стоит. А вообще о программах радио и телевидения давно пора начать серьезный разговор. Эти средства массовой информации фактически стали превращаться в средства массового гипноза. Только раньше, скажем, Кашпировский, проводя свои сеансы, все-таки давал установку на здоровье людей, а нынешние «врачеватели» тоже нацеливают их — на апатию.

# КАКОЙ ИНТЕРЕС НУЖЕН НАШИМ ЛЮДЯМ?

**В одном из номеров в материале «Медные горы» уплывают на Запад» мы рассказывали о нынешних проблемах объединения «Вторцветмет» и перспективах обеспечения нашей республики цветными металлами. В редакцию пришел отклик одного из наших читателей.**

...Действительно, с каждым годом и месяцем в Республике Беларусь приближается «металлический» голод. Полагаю, что в том вина всех нас, от рабочего до министра и даже самих руководителей республики. Приведу только два примера. Так, на Минском тракторном заводе весной (в марте) были обнаружены многотонные залежи готовых запчастей, пришедших в негодность. Немало было здесь и отходов металлического производства. Все это покоилось в земле и под снегом. Об этом, кстати, уже писала газета «Советская Белоруссия» в одном из апрельских номеров. Или посмотрите рачительным взором, что творится возле многих кооперативных гаражей. Чего здесь только нет — отработанные запчасти, старые кузова, крылья машин. Все это свалено в кучу или валяется в беспорядке чуть ли не на проезжей части. Именно такую картину можно наблюдать возле гаражей, что по улице Глебки или 2-му Велосипедному переулку. И только ли там.

Многие предприятия сдают свои отходы прямо на перерабатывающие заводы, получая взамен от половины до 75 процентов готового металла. И тут хочу объединению «Вторцветмет» предложить такую идею. Почему бы им не организовать во многих более-менее крупных городах республики свои приемные пункты и спецбригады. И пусть они контролируют как сдачу металлолома, так и его сбор. В том числе и металла бросового, как черного, так и цветного. Хорошим подспорьем может стать и сбор тех же отработанных и старых аккумуляторов. Только у меня в гараже их стоит три штуки. А сколько их выбрасывают, раскурочивают. А, согласитесь, были бы какие-то льготы у автолюбителей с приобретением новых аккумуляторов, все бы стало на свои места. В крайнем случае их можно привлечь в обмен на какой-то дефицитный товар. Словом, людям нужен какой-то интерес. А будет заинтересованность — и многое сдвинется с мертвой точки.

**В.НАУМОВИЧ, пенсионер.**

### НА СУД СУДА НЕТ?

В работе народных судов Партизанского, Первомайского, Советского и Октябрьского районов белорусской столицы отсутствует надлежащая организация делопроизводства. Снижен контроль за работой канцелярии и сроками рассмотрения дел. Допускаются нарушения норм процессуального и материального права. Такое заключение сделали члены Президиума Верховного суда Республики Беларусь на своем очередном заседании, которое состоялось в Минске.

Президиум Верховного суда обязал председателей народных судов Минска принять неотложные меры и исправить недостатки.

● НОВИНКА



Этот малогабаритный аппарат, который демонстрирует Татьяна Вострикова (на снимке), — новинка витебского производственного объединения «Витязь». Телевизор черно-белого изображения может работать даже от автомобильного аккумулятора. Он потребляет всего 15 ватт. «Витязь» 34 ТБ-401 пополнил серию выпускаемых предприятием аппаратов, уже хорошо зарекомендовавших себя у покупателей.

**Фото Александра ТОЛОЧКО, БЕЛИНФОРМ.**

● МИНИ-ИНТЕРВЬЮ

# ЧТО ОЖИДАЕТ ЭКОНОМИКУ БЕЛАРУСИ?

*С таким вопросом корреспондент БелаПАН обратился к доктору экономических наук, профессору Петру Капитуло.*

— Однозначно ответить сложно. Но, на мой взгляд, экономика Беларуси в ближайшее время может потерпеть крах. Почему? Наша продукция, основным потребителем которой является Россия, уже сейчас становится неконкурентоспособной. Связано это с тем, что в отношении Беларуси и других стран Россия проводит дискриминационную политику в области цен на энергоносители и сырье. Запретить эту дискриминационную политику мы не можем — Россия самостоятельное государство. Когда в Беловежской пуще подписывались документы, нужно было оговорить экономические связи лет на 5-6, чтобы дать возможность перестроить отношения между республиками. Но это было проигнорировано, и теперь Россия имеет возможность оправдывать свою позицию.

Анализ действий белорусского правительства позволяет сделать вывод, что оно не в состоянии решить возникшую проблему. Зачем мы нужны сегодня России? Разве что для размещения военных баз и для разных союзов. Я не против последних, но все разговоры в Верховном Совете пусты, ибо никто не может объяснить, для чего нужны эти союзы. В том числе и экономический, который так защищает В.Кебич. Где прорабатывался этот союз, каковы исходные материалы, что он даст Беларуси? Никакой информации нет.

Я думаю, нынешнее правительство не способно найти выход из тупика. Вся история нашего правительства, начиная с времен перестройки, свидетельствует, что это правительство против всякого реформирования экономических отношений. Сидят и ждут: выползет Россия из пропасти — и мы выползем, не хватит сил у России — у нас тем более...

● ДЕЛОВОЙ МИНСК

# ПОДДЕРЖКА ЕСТЬ, НО НЕ ОЧЕНЬ МОЩНАЯ

**МИХАИЛ ВАЛЬКОВСКИЙ, «ДВ».**

Взять кредит на открытие и расширение дела — задача архисложная для большинства начинающих предпринимателей. Не имея основных фондов, трудно получить его в банке (даже под 200 процентов годовых). Приходится прибегать к гарантии страховых фирм (а это тоже не бесплатно).

Впрочем, в Белорусском фонде финансовой поддержки предпринимателей начинающие и развивающие свое дело могут получить кредит под приемлемые проценты под идею. Правда, идею надо выверить, просчитать, экономически обосновать, изложить все в бизнес-плане, который может убедить экспертный совет, что дело стоящее.

Интересных проектов предлагается на миллиарды рублей. Многие из них попадают сюда после отказа в коммерческих банках. Возможности у фонда скромные. В начале прошлого года для поддержки предпринимательства правительство республики выделило 50 миллионов рублей, которые поступили на счет фонда только в июне. А в августе были розданы в виде кредитов под 30-40 процентов годовых.

В этом году желающих получить поддержку гораздо больше, да и проекты более весомые. Из госбюджета выделено 200 миллионов , которые поступили 29 марта. А уже 11 мая фонд отчитывался за свою работу перед Президиумом Совета Министров.

Государство внимательно контролирует предоставление кредитов фондом. Его восемь раз проверяли практически все контролирующие структуры, но нарушений не нашли. Все суммы, выданные в виде кредитов, вернулись с процентами на счет фонда.

По уставу фонд — государственно-общественная организация, работающая на коммерческой основе. За счет прибыли содержится штат фонда (в нем десять человек). Хотя выдача кредитов — операция банковская, пока фонд работает с деньгами из госбюджета, лицензия ему не требуется. Если же у фонда появятся деньги предпринимателей, то что делать: перерегистрироваться, становиться банком, покупать лицензию?

Порядок предоставления финансовой помощи отработан. Существует и очередь малых предприятий. Они и предприниматели, развивающие приоритетные отрасли производства, оформив все необходимые документы, ждут решения авторитетной экспертной комиссии.

Хватает и упреков в адрес фонда. Дескать, раздают государственные деньги предпринимателям, а вот сами предприниматели со взносами в фонд не торопятся. И не будут торопиться. В нашей стране действует такое законодательство, что сумма взноса из прибыли в фонд почти равна сумме налогов, которые надо уплатить на нее в бюджет. Вот если бы деньги, вносимые в фонд финансовой поддержки предпринимателей, не облагались налогом, тогда ситуация могла бы измениться.

Итак, за год работы выдано 50 кредитов на общую сумму 391 млн. рублей, причем 92 процента средств направлены на развитие производства. Среди приоритетных целей — развитие экспортного потенциала страны, высокотехнологических производств, выпуск импортозамещающих товаров, внедрение научных разработок, сохранение интеллектуального потенциала, производство товаров народного потребления.

Из предприятий, получивших кредит и эффективно его использовавших, следует назвать фирмы «Аура» (производство строительных материалов), «Элтик» (мебель, трансформаторы), «Аксамит», «Галакон» (деревообработка), «Эльф» (товары народного потребления) и ряд других 14 предприятий, получивших в прошлом году кредит в сумме 56,6 млн. рублей, создали 750 рабочих мест (еще 229 рабочих мест в перспективе). И уплатили налоги в бюджет в сумме 92,5 миллиона рублей. Комментарии здесь, на наш взгляд, излишни.

Фонд занимался и благотворительностью. Из прибыли было выделено несколько сот тысяч рублей для поддержки совместно с Союзом предпринимателей и арендаторов первой в республике школы предпринимательства «Вялесічы», работающей на базе двух минских гимназий. Деньги вкладывались и в научные исследования по проблемам изучения рынка, развития предпринимательства.

Скромнее успехи фонда финансовой поддержки предпринимателей в привлечении иностранных кредитов. Фонд направляет проекты различным международным финансовым организациям. Из сорока представленных принят один, да и тот связанный с ноу-хау, весьма интересующий Запад (метод послойного синтеза пресс-форм). Объясняется такой результат причинами, от фонда не зависящими. Главные из них: неуверенность западного инвестора в политической и экономической стабильности страны и крайне непривлекательное налоговое законодательство. Поэтому без гарантий государства инвестировать деньги в экономику Беларуси западные бизнесмены не торопятся.

Предпринимателям не стоит особо рассчитывать на кредиты Запада, как, впрочем, и на поддержку государства. А вот на финансовую помощь фонда поддержки предпринимателей можно надеяться. Дело нужное и перспективное здесь всегда поддержат.

